# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана:** **Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка л[illegible]іцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 30 (514) — Нядзеля, 31 ліпеня 1960 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 14


# Савецкія рэспублікі й дыпляматыя

Савецкі ўрад усё яшчэ лічыць, што падзеі ў Азіі й Афрыцы не датычаць нутранага жыцьця Савецкага Саюзу і ўсё яшчэ ўстрымоўваецца ад таго, каб даць собскім рэспублікам, што ўваходзяць у склад Савецкага Саюзу, больш азначанае палажэньне на міжнароднай арэне. Адзіны вынятак становяць Украіна й Беларусь, якія бяруць удзел у працы Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў і некаторых міжнародных арганізацыяў; аднак-жа, гэтая вялікая ўступка ў дачыненьні да гэтых рэспублік была зроблена ня Хрушчовам, а яшчэ Сталінам. Зроблена яна была, зразумела, з гледзішча вылучна палітычнае выгады, а ня з гледзішча паважаньня прынцыпаў нацыянальнай сувэрэннасьці й права самавызначэньня. Але навет адносна ўпрывілеяваныя Ўкраінцы й Беларусы знаходзяцца ў васноўным у тым-жа палажэньні, як і іншыя народы Савецкага Саюзу — Грузіны й Армяне, Узбэкі й Таджыкі, Латышы й Літоўцы. Паводля ўказу савецкага ўраду, выданым у лютым 1944 году, ім было дадзенае права ствараць собскія міністэрствы замежных справаў, аднак-жа да сяньняшняга дня ніводная з гэтых рэспулік не абмянілася амбасадарамі зь іншымі дзяржавамі, за выняткам польскага й чэхаславацкага консуляту, акрэдытаваных пры ўкраінскім урадзе ў Кіеве.

Нярэдка ўжо паўставала пытаньне, чым фактычна займаюцца міністры замежных справаў розных саюзных рэспублік? Гэтае пытаньне заўсёды цікавіць дасьледнікаў савецкіх канстытуцыйных праблемаў. Некаторыя зь іх навет пробвалі наведаць «міністэрствы замежных справаў», каб пагутарыць зь міністрам і службоўцамі міністэрства. Аднак, гэтыя наведваньні толькі пацьвердзілі ўжо паўсталыя дапушчэньні — а паймення, што міністэрствы замежных справаў у саюзных рэспубліках зьяўляюцца толькі «пацёмкінскімі» вёскамі». Ня зусім ясна толькі, ці яны служаць для таго, каб здэзарыентаваць замежных наведвальнікаў, ці жыхарства дадзенае рэспублікі. Але й гэтая дэзарыентацыя не праводзіцца навет як належыцца. У некаторых рэспубліках міністэрства замежных справаў ня мае навет адпаведнага памешканьня. У Тбілісі, прыкладам, яно знаходзіцца ў баку ад больш важных урадавых будынкаў, у даволі аблупленым доме, і складаецца даслоўна з аднаго прыёмнага пакою. Беларускае міністэрства замежных справаў зьмяшчаецца ў малым будынку, правая частка якога адведзена пад прадуктавы склад.

Амэрыканскі вучоны, Вэрнон Аспатур'ян, судзячы паводля ймя — армянскага паходжаньня, напісаў нядаўна цэлае дасьледваньне пад загалоўкам «Саюзныя рэспублікі ў савецкай дыпляматыі», што выйшла на ангельскай мове ў Парыжы й Жэнэве. Пасьля доўгіх пошукаў у бібліятэках і архівах ды гутарак із шматлікімі ўрадавымі службоўцамі ў Савецкім Саюзе, ён прыйшоў да высnаву, што галоўнае заданьне міністэрства замежных справаў кажнай рэспублікі Савецкага Саюзу заключаецца ў «цырыманіяльнай, дэкаратыўнай і сымбалічнай» функцыі. Міністры замежных справаў прыймаюць замежных гасьцей, што наведваюць Савецкі Саюз, прысутнічаюць на дыпляматычных прыняцьцях і банкетах, і прыймаюць удзел у абмяркоўваньні пытаньняў вонкава-палітычнага характару ў Вярхоўным Савеце ці ягоных камісіях вонкавых справаў. Нядаўна некаторым з гэтых міністраў (Грузіі й Армэніі) было даручана прыняць удзел ў арганізацыі культурнае абмены зь іншымі дзяржавамі, а апрача таго на армянскае міністэрства замежных справаў была ўскладзена адказнасьць за рэпатрыяцыю Армянаў з Захаду ў Савецкі Саюз.

Пакольki міністру замежных справаў у савецкай саюзнай рэспубліцы амаль няма чаго рабіць, то ён звычайна сумяшчае гэты абавязак зь нейкім іншым. У некаторых рэспубліках абавязкі міністра замежных справаў выконвае старшыня савету міністраў, у іншых — заступнік старшыні. У вадным выпадку пасада міністра замежных справаў злучана з пасадай міністра культуры. У 1958 годзе, калі Аспатур'ян зьбіраў дадзеныя аб міністэрствах замежных справаў савецкіх саюзных рэспублік, ён адзначыў, што толькі ў трох рэспубліках — Украіне, Азэрбайджане й Летуве — міністр замежных справаў не займаў другое пасады, у той час як у ваднэй рэспубліцы — Малдавіі — міністра ня было зусім. Склад урадоўцаў гэтых міністэрстваў зьнікомы й часта складаецца толькі з аднаго заступніка міністра, які дапамагае свайму шэфу насіць пусты партфэль.

Як ужо было сказана вышэй, Украіна й Беларусь зьяўляюцца выняткамі. Іх сяброўства ў Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, Міжнароднай арганізацыі працы і ў іншых міжнародных арганізацыях стварае неабходнасьць наяўнасьці больш актыўных міністэрстваў замежных справаў, чымся яны ў запраднасьці ёсьць. Праўдападобна, украінскае й беларускае міністэрствы працуюць пад кіраўніцтвам генэральных сакратароў і кажнае мае па тры дэпартамэнты: палітычных справаў, пратаколу й консультатыўнага, або прэсы. Магчыма навет, што яны маюць таксама эканамічныя й юрыдычны аддзелы.

Практычна значэньне беларускага й украінскага прадстаўніцтваў у міжнародных арганізацыях раўняецца нулю. Прадстаўнікі абедзьвюх краінаў не бароняць неякіх азначаных нацыянальных ці навет рэгіянальных інтарэсаў ні Ўкраіны, ні Беларусі. Іх адзінае прызначэньне — збольшыць лік галасоў савецкага блёку. У некаторых выпадках гэтае прадстаўніцтва зьяўляецца поўным абсурдам. Так, прыкладам. абедзьве рэспублікі зьяўляюцца сябрамі Сусьветнага паштовага саюзу, хоць у ніводнай зь іх няма самастойнае паштовае сыстэмы й ня выпускаецца собскіх паштовых марак. У гэтым дачыненьні як Украіна, так і Беларусь адсталі навет ад такіх крошкавых эўрапэйскіх дзяржаў, як Андора ці Сан Марыно.

Але, як гаворыць француская прымаўка — «апэтыт прыходзіць у часе яды». Наўрад, ці саюзныя рэспублікі яшчэ доўгі час будуць задавольвацца толькі фіктыўным удзелам ў сьветавым дыпляматычным жыцьці. У іх можа прабудзіцца імкненьне да рэальнай дзейнасьці. Яны змогуць захацець пасляць запраўдных прадстаўнікоў у АЗН, мець запраўдныя міністэрствы, амбасады й консуляты, якія мае Гана, Гвінэя, Конго, Сомалі й Камэрун. Покуль што савецкі ўрад стараецца ня бачыць гэтых імкненьняў, уключаючы нерасейцаў, асабліва прадстаўнікоў азіяцкіх савецкіх рэспублік у дэлегацыі, пасыланыя за мяжу, у прыватнасьці, калі яны носяць чыста цырыманіяльны характар, як, прыкладам, дэлегацыі, што прысутнічалі на ўрачыстасьцях абвешчаньня незалежнасьці розных новых дзяржаваў у Афрыцы. У некаторых выпадках гэтыя дэлегацыі ачольваюцца навет Таджыкам ці Узбэкам. Аднак-жа, гэта толькі падчырквае тое ненармальнае палажэньне, у якім знаходзяцца саюзныя рэспублікі Савецкага Саюзу. Іх грамадзяне могуць за мяжой рэпрэзэнтаваць Савецкі Саюз у цэлым, але не сваю родную краіну, ці гэта Таджыкістан, Армэнія, Грузія, ці якая-небудзь іншая з гэтак званых саюзных рэспублік Савецкага Саюзу.

У сьвеце, у якім ідэі нацыянальнай эманцыпацыі й незалежнасьці бесьперапынна атрымоўваюць новыя перамогі, падобнае палажэньне ня можа трываць доўга. Раней ці пазьней народы Савецкага Саюзу змусяць Крэмль пайсьці на яшчэ большыя ўступкі, чымся гэта было зроблена дасюль.

**Вальтэр Коляж**
(Цэтральны дасьледвальны аддзел пры БіБіСі)

# Бясьсільле атэістычнае прапаганды ў БССР

Селёта, можа як ніколі перад гэтым за апошнія пасьлясталінскія часы, у Беларусі разгортваецца войстрая антырэлігійная прапаганда, пры чым напады на рэлігію чым далей, то прыймаюць усё больш ня толькі подлыя й нізкія формы, але нярэдка пераходзяць у адкрытыя рэпрэсіі супраць сьвятароў і вернікаў. На абаснаваньне гэтых рэпрэсіяў ды наагул масавых адміністрацыйных мерапрыемстваў, накіраваных супраць рэлігіі, падаюць такія важкія закіды, як «сабатаж», «зрыў пляну вытворчасьці» (гэта перадусім за нявыхад на працу ў рэлігійныя сьвяты), «дэмаралізацыя (?!) маладога пакаленьня» і г. д.

Бальшавікі асабліва чулыя на гэтым апошнім пункце — на пункце рэлігійных пачуцьцяў сярод маладога пакаленьня. Калі яны яшчэ могуць праз пальцы глядзець на тое, што нейкая бабулька ці дзядок пайшлі ў царкву або касьцёл, дык затое ў выпадку моладзі падымаецца алярм. З аднаго боку, у прэсе, на сходах, мітынгах сыплюцца лаянкі й пагрозы пад адрасам сьвятароў, якія быццам-бы падступна ловяць моладзь у свае «лапы», з другога-ж — пачынаецца крык аб недастатковай «усьведамляльнай» атэістычнай працы адумысловых агітацыйных брыгадаў ды наагул усіх тых, што пакліканыя да гэтага заданьня.

Вельмі цікавы прыклад «дэмаралізаваньня маладога пакаленьня» рэлігіяй прыводзіць на сваіх бачынах газэта «Літаратура і мастацтва» зь 10 чэрвеня ў артыкуле «Выкрываць рэлігійных цемрашалаў». Там мы чытаем наступнае: «...Нельга пакінуць бяз увагі той факт, што ў радзе месц усё яшчэ адчуваецца ўплыў рэлігійнай, антынавуковай ідэялёгіі. У лапы царкоўнікаў, калі можна так сказаць, трапляюць ня толькі людзі пажылога ўзросту, але й моладзь. Хіба ня могуць нас устрывожыць такія факты: у першым квартале гэтага году ў Камайскім сельсавеце Пастаўскага раёну было абвянчана ў касьцёле 50 працэнтаў усіх маладажонаў. У суседнім, Глыбоцкім раёне, усю першую палавіну красавіка кінамэханікі скардзіліся: людзі ня йдуць у кіно, бо цяпер пост. У некаторых месцах у гэты час пуставалі клубы й бібліятэкі, моладзь адмаўлялася ад вясёлых песень і танцаў».

Далей у артыкуле вылічаюцца самыя розныя прычыны такога палажэньня. Аднэй зь іх, як прызнаецца ў артыкуле, гэта тое, што «...Наша навукова-атэістычная прапаганда часта носіць бяззубы, адцягнуты характар, вядзецца суха, няцікава й таму не даходзіць да сэрца й розуму веруючых, якія трапілі пад уплыў царкоўнікаў».

Пасьля войстрае крытыкі недацягненьняў атэістычнае прапаганды, у артыкуле падаюцца розныя прыклады, як такую прапаганду можна наладзіць больш эфэктыўна, ды прыводзяцца таксама канкрэтныя выпадкі з паасобных мясцовасьцяў, дзе, быццам-бы, такія мерапрыемствы «карысталіся вялікім посьпехам».

«Вялікі эфэкт даюць атэістычныя вечары, на якіх выступаюць людзі, што парвалі з рэлігіяй», — падае «Літаратура і мастацтва». У Пастаўскім раёне заслужыла на пахвалу газэты ініцыятыва праводжаньня перад рэлігійнымі сьвятамі г. зв. «дзён антырэлігійнай прапаганды», дзеля чаго ствараюцца адумысловыя агітбрыгады.. У Глыбокім, прыкладам, сёлета ў ноч перад Вялікаднем з 16 на 17 красавіка, на цэнтральнай плошчы, што знаходзіцца якраз між касьцёлам і царквой, у якіх у гэты час маліліся вернікі, было наладжана да 5-ай гадзіны раніцы г. зв. «народнае гуляньне» зь мітынгам, рэвалюцыйнымі песьнямі, танцамі, выступамі самадзейнасьці й дэманстрацыяй фільмаў. Газэта, праўда, адзначае, што гэтае мерапрыемства было «вельмі цікавым», аднак ні словам не ўспамінае аб тым, на колькі яно магло спрычыніцца да адцягненьня вернікаў ад іхнае веры.

Якія-б «посьпехі» ня мела падобная антырэлігійная прапаганда, з бачынаў савецкае беларускае прэсы відаць выразна, што яна ня ў сілах дасягнуць свае мэты. Ёй ня толькі што не ўдаецца выкараніць «рэлігійныя забабоны», але яна навет змушана з горычай і бясьсільнай злосьцяй прызнавацца ў тым, што рэлігійныя пачуцьці пашыраюцца й замацоўваюцца сярод моладзі. Чаго толькі гэтыя прапаганда ня можа ці ня хоча зразумець — гэта таго факту, што якраз ёю створаная пусьціня ў душах маладога пакаленьня зусім натуральна патрабуе запаўненьня яе духовымі неразьменнымі вартасьцямі, якія можа ёй даць толькі рэлігія.

**А. Галубіцкі**

## Угодкі атэнтату супраць Гітлера

20-га ліпеня Нямецкая Фэдэральная Рэспубліка адзначала 16-я ўгодкі атэнтату на Гітлера й няўдалай спробы скінуць нацыянал-сацыялістычны рэжым. 20-га ліпеня 1944-га году у галоўнай кватэры Гітлера выбухла пякельная машына. У Бэрліне група антыгітлераўскіх ахвіцэраў захапіла ўладу. Аднак Гітлер быў толькі паранены й вызвольны рух быў здушаны. Ахвярамі нацыстоўскага тэрору сталіся некалькі тысяч лепшых прадстаўнікоў нямецкага ахвіцэрскага корпусу й інтэлігенцыі.

20-га ліпеня ў Бэрліне ў доме былога галоўнага камандаваньня на Бэндлерштрассе і на мейсцы сьмяротных пакараньняў у былой турме Плецэнзэе былі ўскладзеныя вянкі ад прэзыдэнта Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі й іншых заходня-нямецкіх дзяржаўных дзеячоў. Сярод дэлегацыяў з Заходняй Нямеччыны паважнае месца займалі ахвіцэры Бундэсвэру, у якім служыць некалькі сыноў ахвіцэраў, закатаваных Гітлерам.

У Боне канцлер Адэнаўэр усклаў вянок на помнік ахвярам нацызму.

# Хрушчоў падарозе ад М. Яжова да Ф. Кастра

«Галасуем за цябе, вялікі Сталін, прыяцель геніяльнага Леніна... Дзякуем табе і вітаем цябе, а таксама твайго найвялікшага вучня Мікалая Іванавіча Яжова, якія зьнішчылі гэтых агідных чарвякоў...»

Так гаварыў Мікіта Хрушчоў 25-га чэрвеня 1938-га году.

Хто-ж гэтыя «агідныя чарвякі», якіх зьнішчылі «вялікі Сталін» і ягоны «найлепшы вучань» Яжоў? Гэта так званыя ўкраінскія «буржуазныя нацыяналісты», а між імі Касіёр, Аўсеенка й іншыя.

Дарэчы, у гэтым часе сталінскіх і яжоўскіх крывавых чыстак і ў Беларусі загінулі тысячы прадстаўнікоў беларускай нацыянальнай эліты — пісьменьнікі, навукоўцы, грамадзкія дзеячы, а ў тым ліку й ведамыя ўва ўсім Савецкім Саюзе Убарэвіч, Ягораў ды іншыя.

У той час Хрушчоў быў першым сакратаром ЦК камуністычнай партыі Украіны й да ягоных рук прысохла нямала ўкраінскай крыві. Як бачым, тады Хрушчоў абагаўляў Сталіна, адбіваў паклоны Яжову й дзякаваў ім за масавае людабойства, у якім ён браў актыўны ўдзел.

Гэтыя нізкія паклоны, як ведама, не перашкодзілі Хрушчову выкрываць і ганьбіць Сталіна на XX зьезьдзе КПСС. Што тычыцца Яжова й ягонага нешчасьлівага спадкаемцы Бэрыі, у папраўленай «Гісторыі КП СССР», якая прайшла праз Хрушчова, мы чытаем:

«У 1937-38 гадох агідную ролю адыграў Яжоў, які тады быў на становішчы народнага камісара ўнутраных спраў. За сваю крымінальную дзейнасьць Яжоў і Бэрыя атрымалі заслужанае пакараньне...»

З гэтага мы бачым, што Мікіта Хрушчоў мяняе свае думкі і дзеяньні ў залежнасьці ад каньюнктуры.

Гэта, пэўна-ж, вельмі трагічны факт для падсавецкіх народаў. Але больш трагічным ёсьць той факт, што Мікіта Хрушчоў вылез на міжнародную арэну. Граючы ролю камэльёна, ён штодня крычыць — «мір, мір, мір», а між тым у практычнай дзейнасьці правакуе міжнароднае напружаньне й ставіць сьвет на ўскрай вайны.

Хіба можна інакш разглядаць заявы Хрушчова што тычыцца Кубы і Конга? Хрушчоў махае кулакамі і ракетамі, крычыць: «Рукі прэч ад Кубы», «Рукі прэч ад Конга!»

Падумаем лягічна. Куба — вольная краіна, якой ніхто ня думае панявольваць. Паміж Кубай і Амэрыкай ўзьніклі эканамічныя канфлікты. Ці гэта цікавіць падсавецкія народы і, у прыватнасьці, нас — Беларусаў? Аднак Хрушчоў, нацкоўваючы кубінскага дыктатара Кастра на Задзіночаныя Штаты Амэрыкі, абяцаючы яму ўсякую дапамогу, улучаючы міжкантынэнтальныя ракеты, далівае бэнзыны да агню й тым самым правакуе міжнароднае напружаньне.

А якое-ж дачыненьне мае Хрушчоў да Конга? Бэльгія, нікім ня прымушаная, дала незалежнасьць сваёй калёніі. Аднак, пэўная частка насельніцтва гэтай краіны адразу выявіла сябе няздольнай да кіраваньня дзяржавай: пачаўся хаос і гвалты.

Што-ж можа быць больш справядлівым, як ня тое, што адказнасьць за парадак у Конга ўзяла на сябе Арганізацыя Задзіночаных Нацыяў? А Хрушчоў крычыць: «Рукі прэч ад Конга!»

З гэтых двух прыкладаў мы бачым, што крамлёўскія дыктатары ня хочуць міру й шукаюць авантуры з мэтай заваёвы вольнага сьвету. Выступленьне Хрушчова вельмі-ж нагадваюць выступленьні Гітлера ў 30-х гадох.

Чым скончыў Гітлер — усім ведама. Чым скончыць Хрушчоў — ня ведаем. Нас трывожыць толькі тое, што ў выніку безадказных дзеяньняў Хрушчова могуць стацца нявіннымі ахвярамі народы Савецкага Саюзу, а ў тым ліку і наш Беларускі народ.

**пс**

## НОВЫЯ ДЗЯРЖАВЫ Ў АФРЫЦЫ

20-га ліпеня ў Парыжы Францускі Нацыянальны Сход зацьвердзіў пагадненьні аб прызнаньні поўнай незалежнасьці яшчэ васьмём былым францускім валоданьням у Афрыцы — Францускаму Конга, Габону, Цэнтральнай Афрыканскай Рэспубліцы, Берагу Сланёвай Косьці, Нігеру, Чаду, Верхняй Вольце і Дагамэі. Усе гэтыя краіны ўваходзяць у склад Францускай Супольнасьці. Супраць прызнаньня ім незалежнасьці галасавала толькі каля 60 правых дэпутатаў.

# Пра „парасткі новага“ й бульба з малаком

Ведама, як у райскім краю, у Савецкім Саюзе могуць надарыцца розныя нечаканасьці й дзівы-дзіваў. Напрыклад, калісьці яшчэ пры Сталіне там была закончаная пабудова сацыялізму, і людзі... ад сытасьці працавалі толькі, адбываючы маральны абавязак. Ды яшчэ які быў энтузыязм у вадбываньні гэтага «ганаровага» абавязку (савецкія газэты так сьцьвярджалі)!

Але вось прыйшоў Хрушчоў і... сьцьвердзіў: «каб заахвоціць людзей працаваць і падняць на патрэбны ўзровень народную гаспадарку, трэба ўсё-такі ўвесьці прынцып матар'яльнай зацікаўленасьці працоўных — работнікаў і калгасьнікаў». Што-ж зробіш, камунізм камунізмам, але-ж людзі ня могуць жыць толькі аднымі лёзунгамі. Яны хочуць есьці, а таксама жадаюць бачыць матар'яльныя вынікі свае працы, хоцьбы й мізэрныя. Гэтак у грамадзтве, якое адной нагой стаіць на парозе да камунізму, быў уведзены, праўдзівей прызнаны, адкрыта адзін із галаўнейшых прынцыпаў «капіталістычнага» грамадзтва.

Напачатку трэба агаварыцца тут: як можна было спадзявацца, прынцып гэты не атрымаў агульнага прымяненьня. Для чаго дарэмна растрачваць «народнае» дабро? І гэтая навінка, як калісьці й пры стаханаўшчыне, сталася прыманкай для вылучэньня «перадавікоў», а галоўным чынам — пайшла на падкармленьне новых савецкіх партыйных цівуноў і агітатараў. У калгасах яны пачалі выганяць у месяц па 350 працадзён ці зарабляць, у выпадку прысланых старшыняў калгасаў, ад 50 да 150 тысяч рублёў у год, будаваць свае собскія дамы ў цэнтрах і г. д. Звычайныя калгасьнікі заставаліся пры сваіх працаднёх і за іх атрымлівалі па... 300 грамаў і 30 капеяк. Тое самае адбывалася і ў прамысловасьці.

Аднак і падобны стымул паказаўся за дарагім для партыі, разбазарваньнем дзяржаўнага засеку ці, як успаміналася, «народнага» дабра. І вось зьяўляюцца «брыгады камуністычнай працы», «пачын Гаганавай», «самапажэртваваньні» лекараў і навукоўцаў, і нарэшце... «парасткі новага».

Каб не займаць шмат месца высьненьнем гэтага зьявішча, прывядзём жывы прыклад зь «Літаратуры і мастацтва», як даволі характэрны з тысячы другіх прыкладаў, што сяньня трапляюць у «мастацкім» апісаньні на бачыны савецкае прэсы. Зазначым пры гэтым, што пра «парасткі новага» ці пра высcанае гэтае «камуністычнае самаўсьведамленьне» масаў павінны сяньня шмат пісаць як савецкія пісьменьнікі, так і карэспандэнты.

Як піша ў сваім нарысе М. Гроднеў — «Парасткі новага», — у калгасе імя Дзяржынскага (Бабруйскага раёну) вялікая ўрачыстасьць: сход, прысьвечаны прысваеньню брыгадзе мэханізатараў званьня «брыгады камуністычнай працы». Усе весяляцца, віншуючы брыгаду. Сумны толькі Зьмітрок Арэшка, брыгадзір гэтае брыгады. Ён выганяе ў месяц 350 працадзён (ягоная жонка з дачкой толькі па 25), а таму палохаецца, каб хто-небудзь з калгасьнікаў ня выткнуў яму, што ён абкрадае калгас і калгасьнікаў. А як-жа, надовечы Валянціна Бажанава так і сыкнула: «Ты, Зьмітрок, хоць і новы чалавек, а скнарасьці ў цябе, як у таго кулака Ярмолы». Ня так із сумленьня й ад падобных дакораў, а больш із-за страху быць выкрытым публічна, Зьмітрок Арэшка й наважваецца зрачыся свайго высокага заработку. Ён гэтага ня робіць на сходзе, каб ня быць высьмеяным — чаму-ж раней не дадумаўся да гэтага. Пакідае ўрачыстасьць, і ў раздуме ідзе дадому. У гэтым раздуме ня сьпіць таксама цэлую ноч: як-жа жонку пераканаць, а ці ня скажа яна: «Курыца і тая пад сябе грабе, а ты-ж чалавек».

Раніцай зьвяртаецца да яго жонка:

— Чуеш, бацька, што дачка кажа. Драп у магазын прывезьлі. Пальто трэба. Нявеста наша Галя. На выданьні. У калгасе атэлье няма, дык у Бабруйску трэба шыць...

Разважае Зьмітрок Арэшка: «Адна дачка ў сям'і... Можа-б для Міцькі, маладзейшага сына, што й адмовіў, а для Галі навет і пярэчыць ня будзе...»

Ажно скаланула Зьмітрака: «Вось тут і не грабі пад сябе, як курыца».

Аднак, не сказаўшы й гэтым разам нічога жонцы, Зьмітрок пайшоў у калгасную кантору, дзе падаў заяву аб зьняцьці з 350 працадзён на 60.

Пра гэтую гісторыю вечарам даведалася жонка, прыйшла дадому і расказала Галі. Яны абедзьве сядзяць і бядуюць: «...цяпер-жа толькі жыць пачалі... Эх, Зьмітрок, Зьмітрок... Адзінай дачцы і той адмовіўся пальто купіць. Гэта-ж падумаць...» І маці пацяшае заскочаную й пакрыўджаную дачку: «Ня сумуй... Я атрымаю з калгасу, а потым што прададзім. Хай сабе не ў атэлье пашыюць, а гатовае купім...»

Прыцемкам дадому прыйшоў і Зьмітрок із скруткам пад пахай.

— Вячэраць ёсьць што? — спытаў у жонкі.

«Жонка паставіла на стол гарлач малака й падагрэтую бульбу», — зазначае аўтар, дадаючы ад жонкі:

— Як гэта здарылася, Зьмітрок? Цябе прымусілі заяву падаць, ці ты сам?

Канцоўка выйшла добра. Як бачылі, бацька прынёс скрутак драпу на пальто дачцы, і жонка пахваліла мужа за такі «камуністычны» ўчынак.

Якую-ж мараль можна вывесьці з гэтага нарысу? Аўтар хацеў паказаць, як у савецкім чалавеку выпрацоўваецца «камуністычная» сьведамасьць, якая штурхае яго для дабра грамадзтва зрачыся матар'яльнае зацікаўленасьці, праўдзівей — стацца сьведамым будаўніком «камунізму», дзе праца становіцца «гонарам», а не нажывай. Выйшла аднак адваротнае, і не таму, што так жадаў аўтар нарысу, а проста па жыцьцёвай інэрцыі. Папершае, чалавек які выганяў у месяц 350 працадзён ці зарабляў, як гаворыць аўтар, месячна каля 2000 рублёў і шмат зярна, раптам пры гэтай зьмене — пераходзе на 60 працадзён месячна — ня ў сілах купіць колькі мэтраў драпу на пальто сваёй дачцы. Якое-ж тады становішча сьмяротнага калгасьніка, які параўноўвае Зьмітрака з «кулаком»? Гэты-ж «кулак» Зьмітрок Арэшка пасьля дзённае працы мусіць задаволіцца «гарлачом малака й падагрэтай бульбай» — ведамым трыццацігадовым мэню калгасьніка. Ды й «камуністычны» энтузіязм Зьмітрака й ягонай жонкі даволі вялы, кулацкі, калі выразіцца савецкім тэрмінам. А найбольш гэтае:

— Чуеш, бацька... Драп у магазын прывезьлі...

Хто жыў хоць-бы й да вайны ў Савецкім Саюзе, таму знаёмыя гэтыя спэцыфічныя савецкія пагаворкі: «што прывезьлі?!.», «драп прывезьлі!..» А там чарга, ціск, расхват што трэба й што ня трэба. Ня можна сказаць, што й цяпер гэтага барахла не стае ў Савецкім Саюзе, але аўтар нарысу добра падцеміў гэтым самым усю савецкую рэчаіснасьць. Зьмяняецца стаханаўшчына, брыгады камуністычнай працы, ахвярныя камуністыя, а «парасткі новага» застаюцца тыя самыя: малако з падагрэтай бульбай, «чуеш, бацька, драп прывезьлі», ды ламаньне галавы, як яго купіць на пальто хоць і для адзінае любае дачкі.

**П. Залужны**

# Крытык бяз сумленьня

«Барані Божа ад прыяцеляў, а з ворагамі я сам спраўлюся» — гаворыць старая прыказка.

Быў у мяне некалі прыцель Раман Сабаленка. Разам у коньніцы служылі. Вайсковая служба, ведама, не салодкі пернік. Было ўсякае. Спачатку й на кані ледзь трымаліся. А потым пайшло нармальна. І вальтыжыроўка, і ножніцы, і праз бар'еры скакалі. Праўда, Раману было цяжка. Зь ягонай мядзьвежай камплекцыяй ня лёгка ўскочыць у сядло. Пакутаваў плапец.

Здаралася й са мной бяда: не заўсёды шабляй добра лазу сек. Тут ужо Раман — герой. У яго рука дрывасека! А ў манэжы — роля ізноў мянялася.

І вось аднойчы зайздрасьць цішком закралася пад сэрца. Зайздросьціў Сабаленка мне ў літаратурнай справе. Асабліва пасьля таго, як выйшаў паэтычны зборнік «Разгон». Пісаў Сабаленка ў той час вершы й дасылаў у мясцовыя рэдакцыі. Ня друкавалі. А мае — і ў газэтах, і ў прыгаданым зборніку. Чытаў Сабаленка мае вершы і ліслівa хваліў.

Пазьней нашыя дарогі разышліся. Сабаленка ўступіў ў камуністычную партыю. Магічны кіёк — партыйны білет — крыху падняў яго. Аднак паэзія цуралася грубой натуры. І Сабаленка перайшоў на прозу. А цяпер ўбачыў, што найлепш яму быць крытыкам (крытыкам бяз сумленьня). І вось ён стаўся.

У газэце «Голас радзімы» зьмешчаны ягоны артыкул. Сабаленка цытуе вершы Рыгора Крушыны і лае аўтара, карыстаючыся пры гэтым лексыконам кірмашовай гандляркі.

Не разумеючы паэтычнага вобразу:

> «Быў на кані і пад канём,
> і лёс таптаў капытам», —

Сабаленка раптам прыгадвае даўніну, службу ў арміі, і лемантуе:

«Крушына быў заўсёды пад канём».

Недацяміў ён і іншых вершаў і абураецца, супраць ветру плюецца. Навет пачаў высьмейваць літаратурнае імя аўтара. «Крушына», маўляў, хісткая, ломкая, крохкая.

Калі ўжо так чапляцца, дык да ўсяго можна. Навет і да самога сябе. Ягоны-ж бацька зваўся Карпам. Гэта мы добра ведаем. Ну, а карп — рыба. Значыцца, Раман — рыбін сын. Ад-жа я не сказаўбы гэтага, бо Сабаленка — ні рыба, ні мяса; ні паэт, ні крытык, а грубы пашквілянт. Праз 30 год затоеная зайздрасьць абудзілася. І ўвесь свой артыкул Сабаленка забрудзіў гразёй лаянкі й хлусьні. А на заканчэньне артыкулу ён лагодна да эмігрантаў:

«Дарагія суайчыньнікі (а чаму яны яму дарагія?!), калі трапяцца вершы Рыгора Крушыны, дык ня верце ніводнаму слову яго».

Як відаць з гэтага, Сабаленка міжволі, нехаця прызнаў мастацкую вартасьць вершаў Крушыны — інакш ня было-б патрэбы агітаваць супраць іх! Дрэнных вершаў ня чытаюць. У гэтым Раман Сабаленка добра пераканаўся з сваёй уласнай практыкі.

**Рыгор Крушына**

# У паняволенай Беларусі

### У МЕНСКУ НЕЛЬГА ПАМЫЦЬ РУК

У газэту «Зьвязда» (28. 6. 60) пішуць два работнікі Менскага аўтамабільнага заводу: «...Гарачую ваду атрымліваем два разы на тыдзень — па серадах і пятніцах. Гэта нам вельмі нязручна. Памыешся, пойдзеш на завод у сыботу, зноў прыйдзеш брудным. Перад выхадам хочацца прывесьці сябе ў поўны парадак, а вады няма... Не заўсёды рэгулярна падаецца ў гарадок аўтабудаўнікоў і халодная вада, асабліва вечарам. Іншы раз прыйдзеш з другое зьмены, і навет рукі няма як памыць».

### ЛУЖЫНЫ НА ВУЛІЦАХ СТАЛІЦЫ

«Варта прайсьці дажджу, і ў некаторых раёнах гораду (Менску) — на Рабочай вуліцы (пасёлак аўтазаводу), Прамысловай, Стаханаўскай і Алега Кашавога (пасёлак трактарнага заводу) утвараюцца лужыны, якія доўга ня высыхаюць.» («Зьвязда», 28. 6. 60).

### НЯМА ДЗЕ КУПІЦЬ ЛЯМПАЧКІ

«Дзе можна купіць у Менску электрычную лямпачку? Амаль толькі ў Цэнтральным унівэрмагу і магазыне Энэргазбыту на вуліцы Карла Маркса. А калі вы жывеце, напрыклад, у раёне камбінату будаўнічых матар'ялаў або на вуліцы Даўмана? Тады вам прыдзецца затраціць 2-3 гадзіны, каб набыць лямпачку або іншую прыладу да электрапрыбораў. А прадаўцы яшчэ зьдзіўляюцца: «Чаму гэта чарга па лямпачкі?» («Зьвязда» 16. 6. 60).

### У ЛАЗЬНЮ ЗА 30 КМ.

«Перад выхадным днём кажнаму хочацца памыцца. Каб не стаяць у сыботу ў чарзе да 11-12 гадзіны вечара, вы адкладваеце гэтую працэдуру на нядзелю. Але ўсё роўна, каб трапіць у лазьню, вам прыдзецца затраціць 3-4 гадзіны... Справа ў тым, што ў нядзелю памыцца ў гарадзкую лазьню прыяжджаюць працоўныя з Фаніпалю (каля 20 км. — Рэд. «Б-ны»), Дзяржынску (колішняе Койданава, каля 30 км.), Калодзішчаў (каля 15 км.) і г. д.». (Зьвязда», 16. 6. 60).

### НАЧНАЯ ЗЬМЕНА ДЛЯ КАРОВАЎ

У падборцы матар'ялаў «Назустрач пленуму ЦК КПБ» газэта «Зьвязда» зьмясьціла 23 чырвеня сёлета артыкул пад такім загалоўкам: «Хто ноччу пасьвіць статак на лузе, той з малаком будзе!»

### ВЫСОКАЯКАСНАЯ НАФТА НА БЕЛАРУСІ

17 чырвеня радыё Масква паведаміла, што на значнай тэрыторыі паўдзённа-ўсходняе Беларусі знойдзеныя запасы нафты. Лябараторныя аналізы паказалі, што беларуская нафта сваёй якасьцяй ня горшая за башкірскую.

### ВЫСЯКАЮЦЬ ЛЯСЫ

«Ня кажны ведае, што Беларусь штогод дае 73 працэнты ўсіх сушаных грыбоў, якія нарыхтоўваюцца ў СССР. У краіне ня многа такіх грыбных месцаў, як наша Бягомельшчына!

А на Бягомельшчыне мы вельмі сьпяшаемся высякаць лясы! Ці ня час ад бягомельскіх лясоў адвесьці сякеру, што бязьлітасна зьнішчае лясы й пералескі?»

(«Літаратура і мастацтва» 10. 6. 60)

### САВЕЦКІЯ СТУПЕНІ ПАТРЭБАЎ

«Літаратура і мастацтва» зь 10 чэрвеня між іншымі дадзеныямі задаволена падае, што ў Плiскім раёне «раённая бібліятэка мае цяпер 230 экзэмпляраў кніг на антырэлігійныя тэмы».

І ў той-жа самай газэце роўна тыдзень пазьней чытаем наступнае:

«Паспрабуйце купіць у Гомелі буквар. Гэтай найпатрэбнейшай кніжкі для дзяцей дашкольнага ўзросту тут ня знойдзеш...

«Нельга абыйсьці маўчаньнем і той факт, што ў магазынах кнігагандлю няма многіх падручнікаў для малодшага й сярэдняга школьнага ўзросту...» (!)

**Абрам Тэрц**

# Суд ідзе

**(Працяг)**

— Уся справа ў тым, дарагая Марына Паўлаўна, на чый пункт гледжаньня стаць. Папрабуем стаць на ваш.

Пакурваючы смачную цыгарэтку, Карлінскі глядзеў, як Марына есьць. Маленькая бессаромная радзімка, падобная на мушку, прыдавала ейнаму твару асьляпляючую бель. Але вось ужо абвісьлі складкі шчок, набракла прамежнасьць на шыі й падбародку. Марына кусае піражок, агаліўшы дзясны так, каб не запэцкаць на губах ярка намаляваную скуру.

— Марына Паўлаўна!

Яна павольна паварочвае голы твар, паказваючы яго з усіх бакоў.

— Мы ж прыяцелі, няпраўда-ж? Таму я й дазволю сабе гаварыць на чыстае. Дык-жа не па любові... (Карлінскі панізіў голас: за суседнім столікам двое маладых людзей засярэджана хлябталі каняк)... гэта значыць ня зь любові да радзімы й камунізму вы выйшлі замуж? Вы, такая разумная й такая прыгожая... Вы-ж прыгожая?

— Прыгожая, — зьлягка падсьмейваючыся, пацьвердзіла Марына.

— І разумная?

— Люблю гутарыць з вамі. Як быццам ясі перац у тамаце. І кава сьхіляе да шчырасьці. Калярыт!..

Юры павёў падбародкам, запрашаючы агледзіцца па бакох. Малады чалавек за суседнім столікам упорыста цьвердзіў:

—Люблю звон бакалаў.

А ягоны сябра перахрысьціўся куском вяндліны, наколатым на відэлец, праглынуў і пераконлівым тонам дабавіў:

— Цела жанчыны — гэта амфора, напоўненая віном.

— Ці не пара напоўніць і нашыя амфоры? — схапіўся Карлінскі. — Толькі за што-ж нам выпіць? За ідэялы, аб якіх вы так старанна замоўчваеце?

— Марына паціснула плячыма:

— Ня ўмею гутарыць на адарваныя тэмы. Юры Міхайлавіч.

— А на інтымныя?

— Тым больш.

— Та-ак. Вы сьхільныя да загадак. Кажная прыгожая жанчына, між іншым, хоча здавацца таямнічай. Аднак з вамі, Марына Паўлаўна, небясьпечна быць адкрытым. Вы ўсё слухаеце...

— Слухаю.

— Гладзіцё, запамінаеце, а потым...

— Не, я ня ўсё запамінаю, але разумею я ўсё.

— А я вось многага не разумею.

— Напрыклад?

— Узяць-бы хаця вашую прыгажосьць. Як вы можаце...

— Як я магу, разумная й прыгожая, жыць з маім мужам? Вы гэта хацелі сказаць.

Карлінскі замёр. Мякка ступаючы, высталіўшы мордачку, зьвер ішоў проста на яго. Чорнабурая лісіца, пясец, куніца, о, мой доўгачаканы серабрысты саболь! Маладыя людзі за суседнім столікам ужо прызналіся ў любові.

— А я, Віця, сумленна табе прызнаюся — за ўсё сваё жыцьцё жабы ня скрыўдзіў.

— Дзякую, Толя, што я знайшоў у табе чалавека.

✡

— Дык ты, Сяргей, па юрыдычнай часьці зьбіраешся? Дарэчы задумаў. На зьмену бацьку, значыць? Малайчына! А пытаньні й сумляваньні твае, папраўдзе гаворачы, гроша ломанага ня вартыя. Пустыя, нясьпелыя гутаркі вядзеш із сваім Валер'янавічам. Каша ў цябе ў галаве. Зялёны ты яшчэ ў вялікай палітыцы разьбірацца.

Ты, напрыклад, за былых ваеннапалонных заступаешся. А мне лепш за цябе ведама: трусы яны й здраднікі. Або што датычыцца заработнай платы. Што-ж ты — міністра з убіральніцай раўнаеш? Трыста рублёў у зубы й шагай круціць дзяржавай?

Ты думаеш, дурнейшыя за нас з табой на версе сядзяць? Пакуль ты нямецкія дзеясловы спрагаеш й філязофіі канспэктуеш, там ужо ўсё ведама, вылічана, разьлічана. І пашто дзеясловы твае патрэбныя, і куды канспэкты прыгадзяцца.

Ты адно зразумей: галоўнае — вялікая мэта нашая. Ёю ўсё і мерай — ад Шаміля да Карэі. Гэтай мэтай усякія сяродкі асьвячаныя, усе ахвяры апраўданыя. Мільёны, падумай, мільёны дзеля яе загінулі, апошняя вайна што каштуе. А ты з усякімі папраўкамі лезеш — гэта несправядліва, тое няправільна.

Я вот выпадак табе раскажу, на ўсё жыцьцё яго запамятаў. Прыйшоў загад аднаму капітану: узяць такую й такую вышыню й пункт. Жаўнеры змарыліся, разбалталіся, на сьмерць лезьці нікому няма ахвоты. А тут якраз дэзэртыра прыводзяць. Так, маўляў, і так, хацеў змыцца з поля бойкі. Капітан, не гаворачы дрэннага слова, на вачох усіх ляснуў яго зь пісталета, паслаў рапарт начальству і — у атаку.

Атрымалі мы рапарт, высьняем: як і што? Аказалася — зусім ня дэзэртыр гэта быў, а проста іншы ахвіцэр накіраваў яго кудысьці ў справе, а капітан ня ведаў або забыўся ў гарачцы.

Падаць сюды капітана! Самапраўства? Растрэл бяз суду й сьледзтва? За гэта — не паздаровіцца. Штрафная рота, напэўна.

Дакладываюць: капітана няма больш, паў сьмерцю харобрых.

Што-ж, перад жаўнерамі мёртвага камандзера зьняслаўляць? Ахвіцэрскія пагоны пад сумлеў падстаўляць? Можа, ня прыстрэль ён таго дэзэртыра, не падняў-бы ў атаку жаўнераў і загаду ня выпаўніў-бы.

Вышыню-ж, вышыню ўзялі ўсё-такі!

Я, прызнацца, тады з вышыні тэй самай паглядзеў на ўсё, што сталася. А цяпер ты папрабуй, паглядзі. Ну, будучы пракурор, вынясі сваю справядлівую пастанову.

— Я не хачу быць пракурорам.

— У вабароньнікі цаляеш, па сьлядох Карлінскага, у бліскучую адвакатуру?

— Не, я буду судзьдзёй.

✡

— Здаюся, здаюся бяз бою, Марыя Паўлаўна. Я поўнасьцю згаджаюся з вамі — мэта апраўдвае сяродкі. І гэта тым больш правільна, чым вышэйшыя жаданая мэта.

Як гэта вы надзвычайна выразіліся? «Мала радзіцца прыгожай, прыгажосьць трэба заваёўваць». Брава! Я не падазраваў, што за такой рэнуараўскай вонкавасьцяй хаваецца спрактыкаваны палкаводзец.

Ведаеце што, вазьміце мяне ў свой арсэнал. Прыгажосьць вымагае пакланеньня, мэта патрабуе сяродкаў. Дык няхай я буду недастойным сяродкам вашай усёапраўдываючай прыгажосьці. Вы не пашкадуеце.

А цяпер вып'ем — за мэту, за ваш прыгожы твар, за неабходны саюз мэтаў і сяродкаў.

Карлінскі й Марына стукнуліся.

# Тыдзень Паняволеных народаў у Нью Ерку

**17—23 ліпеня 1960**

На падставе Кангрэсавай рэзалюцыі (Public Law 86-90), прынятай у ліпені 1959 году аднагалосна абедзьвюма палатамі Амэрыканскага Кангрэсу, Прэзыдэнт Задзіночаных Штатаў Амэрыкі Двайт Д. Айзэнгаўэр і ў гэтым годзе праклямаваў Тыдзень (17-23 ліпеня) Паняволеных Народаў у Амэрыцы.

Ад прыняцьця рэзалюцыі й першай Праклямацыі Прэзыдэнта прайшоў год вялікіх дыскусіяў, у якіх выявіліся розныя разыходжаньні й запярэчаньні. Перадусім Рэзалюцыя й Праклямацыя выклікала гвалтоўную рэакцыю Масквы й Хрушчова асабіста. Яны лаялі Амэрыку за нанесены паклёп на ўладу Савецкага Саюзу, у якім усе народë жывуць «свабодна», і што Рэзалюцыя — гэта чарговы наступ амэрыканскага імпэрыялізму ў халоднай вайне.

У сьлед за Масквою зарэагавалі Расейцы, што жывуць у Амэрыцы й наагул у вольным сьвеце, і то амаль бяз розьніцы палітычных колераў, што Рэзалюцыя ўжо «расчленила» Расею. Была таксама рэакцыя й сярод некаторых Амэрыканцаў як, прыкладам, у Дэпартамэнт оф Стэйт, які ў той час якраз рыхтаваўся да прыняцьця Хрушчова ў Амэрыцы ды спадзяваўся наладзіць зь ім «суіснаваньне», а таму аднёсься вельмі халодна й нэгатыўна да Рэзалюцыі й Праклямацыі. Таксама ўстрыманая была перадача зьместу Рэзалюцыі «Голасам Амэрыкі» й радыям «Свабода», якое падлягае Амэрыканскаму Камітэту Вызваленьня.

Мала гэтага, былі выкліканыя дыскусіі і ў эміграцкіх колах усяе эміграцыі, у тым ліку і ў Беларусаў. Адзін бок уважаў, што Рэзалюцыя ў пяршыню называе кпамуністычна-расейскі імпэрыялізм сваім імём ды пералічае народы, якія на сяньня паняволеныя чырвонай Масквой, «дзеля таго, што імпэрыялістычная палітыка камуністычнай Расеі шляхам простае й пасярэдняе агрэсіі, прывяла да здушэньня нацыянальнае незалежнасьці Польшчы, Вугоршчыны, Беларусі», ды пералічвае ўсе 23 краіны, якія сяньня знаходзяцца пад савецкай акупацыяй.

Другі бок цьвердзіў, што Рэзалюцыя шкодная ўсім народам таму, што ня ўлічаныя Расейцы, бо й Расея зьяўляецца ахвярай камунізму, і камуністычны (не расейскі) імпэрыялізм ёсьць шкодны Расейцам, як і ўсім іншым народам (!).

Калі Расейцы зарыентаваліся пасьля нейкага часу, што Рэзалюцыя й Праклямацыя ня прыймаецца некаторымі афіцыяльнымі амэрыканскімі коламі, пачалі сыпаць пратэсты ды тварыць камісіі дасьледаў, каб выкрыць, хто «хвальшуе» расейскую гісторыю й хоча «расчленить» Расею. Гэтыя-ж Расейцы паднялі такую суматоху, што нашыя стаpонынікі «шкоднасьці» Рэзалюцыі прадказвалі, што сёлета ня будзе Праклямацыі Прэзыдэнта.

Зраднікі сваіх народаў спад знаку «Блёк нацыяналаў», якія бароняць «едыной неделимой» больш чымся самыя Расейцы, выдалі рэзалюцыю, якая была апублікаваная ў «Новом Русском Слове» з 13-га ліпеня, дзе між іншым гаворыцца: «Што Расея-СССР непадзельная, як непадзельныя ЗША, і што народы СССР-Расеі цэняць адзінства свайго агульнага гаспадарства ня менш, чымся іншыя расы й этнічныя групы, якія складаюць жыхарства ЗША й не дапусьцяць да распадзелу яе (Расеі)».

Аднак усе гэтыя захады адмяніць Рэзалюцыю былі дарэмнымі.

Дзеля адзначэньня Тыдня Паняволеных Народаў сёлета былі створаны адумысловы камітэт на цэлую Амэрыку на чале з д-рам Львом Дабранскім ды такія-ж самыя камітэты былі пакліканыя ў кажным штаце Амэрыкі. На чале Нью-ёрскага камітэту стаў журналісты й тэлевізыйны прадуктар сп. Justyn McCarthy. У гэты камітэт уваходзіць, як сябра, Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.

Дзякуючы камітэтам, сёлета Тыдзень Паняволеных Народаў шырока быў адзначаны ўва ўсіх больших гарадох Амэрыкі праклямацыямі бурмістраў гарадоў і праклямацыямі губэрнатараў штатаў, артыкуламі ў газэтах, камэнтарамі ў радыё й тэлевізіі ды малітвамі амаль што ўва ўсіх цэрквах Амэрыкі.

Адзначэньне Тыдня Паняволеных Народаў у Нью Ёрку распачалося ўрачыстай ў нядзелю 17-га ліпеня багаслужбамі ў Катэдры сьв. Патрыка — каталіцкая, у Катэдры сьв. Яна — епіскапальная і ў бажніцы (15 ліпеня) B'nai Jeshurum.

На ўрачыстай багаслужбе ў Катэдры сьв. Патрыка, якую меў Яго Эміненцыя Кардынал Спэльман, былі прысутныя шматлікія сябры Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня з нацыянальным сьцягам. Казаньне на тэму дня ў Катэдры меў Монсіньёр Dougherty. Ён зазначыў, што Царква зьяўляецца змагаром за вызваленьне паняволеных народаў ды ёсьць вечным ворагам камуністычнай ідэалёгіі. Пасьля багаслужбы Кардынал Спэльман у асысьце духавенства прыняў на аўдыенцыі прадстаўнікоў паняволеных народаў. Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне рэпрэзэнтавалі старшыня сп. К. Мерляк і заступнік сп. Ф. Бартуль.

У нядзелю 24 ў Катэдры сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ быў адслужаны ўрачысты малебен з нагоды Тыдня Паняволеных Народаў Яго Прэасьвяшчэнствам Архіяпіскапам Васілём. Уладыка Васіль у сваім казаньні падчыркнуў, што на кажнае цярпеньне прыходзіць канец, так і цярпеньням, якія нясе Беларусь пад бязбожным панаваньнем, хутка наступіць канец, а тады Беларускі Народ будзе свабодны й нараўні зь іншымі народамі славіць Усявышняга.

Таго-ж самага дня папаўдні адбыўся вялікі мітынг у залі «Manhattan Center» у Нью Ёрку, а другі мітынг — у горадзе Левітаўн на Лонг Айлэнд.

Мітынг адчыніў старшыня камітэту Justyn McCarthy, прэзэнтуючы ўсе нацыянальнасьці, зь якіх кажная была прадстаўлена на сцэне трыма асобамі ў нацыянальных вопратках із сваімі сьцягамі, ды прачытаў прывітаньне ад віцэ-прэзыдэнта Рышарда М. Ніксана. Галоўным прамоўцам быў кіраўнік палітычнага аддзелу AFL і CIO сп. J. Lovestone. Паважаны прамоўца сказаў вельмі патрыятычную й дынамічную прамову й заявіў, што Задзіночаныя Штаты Амэрыкі не заспакояцца, пакуль усе народы ня будуць вольнымі й незалежнымі.

У міжчасе адбываліся мастацкія выступы шматлікіх нацыянальнасьцяў, у тым ліку й Беларусаў. Беларусы былі рэпрэзэнтаваныя мастацкімі сіламі з Саўт Рывэру; выступіў зь песьнямі дзявочы ансамбль пад кіраўніцтвам сп. Еўца й танцавальны гурток Злучанага Дапамаговага Камітэту. Танцавальная група Згуртаваньня Беларускае Моладзі выступіла з народнымі танцамі ў Левітаўн на Лонг Айлэнд.

У канцы мітынгу была прынятая аднагалосна рэзалюцыя, у якой прысутныя пратэставалі супраць паняволеньня й вынішчэньня Масквою паняволеных народаў ды дамагаліся актыўнае палітыкі вызваленьня з боку ЗША й усяго вольнага сьвету.

Тут трэба падчыркнуць, што адзначэньне Тыдня Паняволеных Народаў было-б яшчэ больш, каб не канвэнцыі Дэмакратычнай і Рэспубліканскай партыяў, якія занятыя выбіраньнем кандыдатаў на Прэзыдэнта, якога будуць выбіраць сёлета ў пачатку лістапада.

**Д. Маяк**

## Новая амэрыканская зброя

20 ліпеня сёлета ваенна-марскія сілы Задзіночаных Штатаў правялі ўпяршыню запуск кіраванай ракеты тыпу «Палярыс» з падводнае лодкі пад вадой. Ракета «Палярыс» была ўдала выстрэлена з атамнай падводнай лодкі «Джордж Вашынгтон», якая знаходзілася 50 кілямэтраў ад мысу Канавэраль у Флярыдзе. Выйшаўшы з вады ракета пераляцела 1750 кілямэтраў і трапіла ў вызначаную мэту. Ракета «Палярыс», даўжыня якое 8 з палавінай мэтраў, важыць 14 тонаў, адлегласьць ейнага засягу — 2400 кілямэтраў, хуткасьць лёту ад 6 да 8 тысяч кілямэтраў на гадзіну. На падводнай лодцы можа быць разьмешчана 16 ракетаў гэтага тыпу. Падчас запуску ракеты падводная лодка знаходзілася на глыбіні 27 мэтраў.

Сама падводная лодка мае абыймо 5 400 брутта-тонаў, даўжыню 116 мэтраў. Абслугоўвае яе 100 чалавек. Адмірал Вільям Ф. Рэборн, шэф «Палярыс-праграмы» падчыркнуў, што такія лодкі (а іх колькасьць Задзіночаныя Штаты заплянавалі давесьці да 20 штук) могуць цэлымі месяцамі знаходзіцца пад лёдам Арктыкі напагатове і апэраваць у засягу многіх тысяч міляў, не патрабуючы вяртацца на свае базы.

# Аб некаторых багацьцях Беларусі

У нетрах нашай Бацькаўшчыны Беларусі захоўваецца шмат розных каштоўных выкапняў. Толькі частка зь іх да гэтага часу выяўлена геалягічнымі разьведкамі. Аб шмат чым існуюць толькі меркаваньні й здагадкі.

Да гэтага часу зусім ня высьветлена пытаньне аб залезнай рудзе. Бяз сумлеву, руда на Беларусі ёсьць, але ці яе паклады маюць прамысловае значэньне — гэта яшчэ пытаньне. З самых даўных часоў прымітыўным спосабам здабывалася руда пераважна ўва ўсходняй частцы Беларусі. Аб гэтым сьветчаць шматлікія назовы паселішчаў. Вось частка зь іх на Гомельшчыне: Жалезьнякі, Ачаса-Рудня, Рудня - Марымонаўская, Рудня-Старая, Жыткавіцкая Рудня, Мельчыцкая Рудня й інш.

Жыхары Рудні-Марымонаўскай расказвалі, што іх продкі былі работнікамі-рудакопамі, якіх даўней абшарнік заприсіў зь сем'ямі зь Сілезіі на працу для здабываньня руды. Пасьля скасаваньня прыгону ў 1861 годзе рудакопы Палякі атрымалі зямельныя надзелы й назаўсёды засталіся ў Рудні. Зь цягам часу зь некалькіх сем'яў стварылася вёска. Вытворчасьць зялеза прыпынілася, саматужны спосаб яго вырабу стаўся нерэнтабельным. Жыхарам Рудні Марымонаўскай напамінае іх бацькаўшчыну каталіцкае веравызнаньне й прыгожы касьцёл.

Пошукі зялезнай руды на Беларусі не зьяўляюцца покуль што актуальнымі.

На Беларусі ёсьць вялізарныя запасы кварцавых пяскоў, прыгодных ня толькі для вытворчасьці будаўляных матар'ялаў, але й для шкляной прамысловасьці. З даўных часоў на Беларусі існавала шмат шкляных гутаў. Частка зь іх была зачыненая, з прычыны вялікае адлегласьці ад чыгунак (Урэчча, Старэва). Існуюць гуты ў Глушы й Елізаве на Бабруйшчыне, у Барысаве, гута «Нёман» на Горадзеншчыне, да апошняе вайны існавала гута і ў Менску. Значная частка гэтых гутаў мела ўстарэлае абсталяваньне. Высокаякасныя кварцавыя пяскі знаходзяцца на Гомельшчыне ў Лоеўскім і Рэчыцкім раёнах. На гэтай сыравіне перад сусьветнаю вайной каля Гомеля пры чыгуначнай станцыі Касьцюкоўка была пабудавана мэханізаваная шкляная гута, якая прадукуе высокаякаснае шкло. Кварцавыя пяскі, прыгодныя для шкляной прамысловасьці знаходзяцца таксама ў Дунілавіцкім раёне. Ладны запас іх ёсьць і ў Горадзеншчыне.

Амаль па ўсёй Беларусі ў дастатковай колькасьці ёсьць вапнякі й гліны для ганчарскай і цэмэнтовай вытворчасьці. Немалую вартасьць маюць і тугаплаўныя гліны, якія суцэльным пластом залягаюць магутнасьцяй да дзесяці мэтраў у Лоеўскім і Рэчыцкім раёнах. Значныя запасы тугаплаўнай гліны ёсьць каля Століна Берасьцейскай вобласьці. Гэтая гліна плавіцца пры тэмпэратуры 1350-1580 градусаў, яна не прапускае газу й прыгодна для вырабу тугаплаўнай цэглы, абліцовачных плітаў, каналізацыйных трубаў і іншых вырабаў.

У Лельчыцкім раёне ў вярхоўі рэчкі Убарацi на Гомельшчыне знойдзены магутныя залежы шэрага й ружовага граніту й гнэйсаў (горная крышталічная парода з шпату, кварцу й сьлюды). Залежы гэтыя знаходзяцца на балотах, а ў некаторых мясьцінах выходзяць на паверхню ў выглядзе ўзвышшаў сярод балот. Распрацоўка гранітаў адкладаецца на невядомы час, бо Масква не адпускае сродкаў на будаўніцтва пад'ездаў да гэтых каштоўных выкапняў.

Прырода надзяліла нашу Бацькаўшчыну рознымі каштоўнымі мінэральнымі водамі. Паводля сваe якасьці беларускія воды блізкія да водаў вядомых з даўнейшых часоў курортаў Друзгенікаў, Старай Русы (Наўгарадзкая вобласьць). Асабліва каштоўныя мінэральныя воды знаходзяцца ў Ельскім раёне. На вялікіх глыбінях знойдзены серавадародныя воды, якія сваёй якасьцяй падобныя да водаў вядомага каўкаскага курорту ў Сочы на ўсходнім узьбярэжжы Чорнага мора. Карысныя для здароўя мінэральныя воды знойдзены ў Бабруйску, Старобіне, Менску, Барысаве, у Браслаўшчыне знойдзены хлярыдныя й сульфатныя воды, прыгодныя для лекаў.

Мы тут ня будзем затрымлівацца на тарфяных залежах Беларусі. Запасы торфу тут вылічаюцца мільярдамі тонаў, а ведама-ж што торф ідзе ня толькі на паліва, але й для хімічнай перапрацоўкі.

Апошнімі гадамі на Беларусі вядуцца пошукі нафты. Нафта ёсьць, яна знойдзена ў Палескай нізіне ў Ельскім раёне. Закладзены ўжо чатыры нафтавыя вышкі. Тры вышкі знаходзяцца на правым беразе Прыпяці, а чацьвертая на левым беразе ля мястэчка Капаткевіч. Гэта яшчэ не прамысловыя вышкі, а толькі дасьледныя. Перашкодаю да больш наважаных пошукаў нафты зьяўляецца адсутнасьць дастатковых сродкаў на гэтую справу. Няма таксама высокакваліфікаваных геалёгаў-нафтавікоў. Досьледы вядуцца на нязначнай плошчы і ўстарэлай апаратурай. Відаць, Масква не адчувае патрэбы весьці тэрміновыя й каштоўныя пошукі нафты на Беларусі.

Ня будзем спыняцца на гісторыі пошукаў каменнай і калійнай солі. Солі гэтыя знойдзены каля Старобіна на Случчыне. Каменная соль яшчэ перад вайной была знойдзена на Палесьсі ў Даманавіцкім раёне. Магутныя залежы яе знаходзяцца на глыбіні больш за 800 мэтраў. Да распрацоўкі яе яшчэ не прыступлена. Іншая справа на Старобіншчыне. Там ужо вядзецца прамысловая распрацоўка калійнай солі. У першай палове красавіка сёлета на глыбіні 385 мэтраў дасягнута праккладка да першага пласту солі. Сярэдняя магутнасьць пласта солі складае 3,6 мэтраў. Другі слой больш магутны й знаходзіцца на глыбіні 385 мэтраў. Пры шахтах будуецца горад Салігорск, разьлічаны на 30 тысяч жыхарства. Прадбачваецца, што Салігорск будзе даваць ня менш за 20 працэнтаў усяе калійнае солі ў СССР.

**В. Б.**

---

— Вы скарыстаеце з маей прапановы?

— Ня ведаю, быць можа. Хопіць аб гэтым.

Марына была разгубленая. А Юрэму ўсё ўспаміналася далёкае, дзіцячае. Мудры зьмей-спакушальнік даваў яблык сьветлавалосай Эве, някемлівы Адам драмаў пад райскім кустом. І дзеля паўніні вобразу ён падсунуў ёй вазу.

— Папрабуйце пэрсік, Марына Паўлаўна. Салодкае віно звычайна закускаюць фруктамі.

☆

Тоўсты чалавек па-дзяцінаму падскакваў, мітусіўся, навет прыкульгваў зь ветлівасьці. Ён быў шмат старэйшы й таўсьцейшы за бацьку, але калі той сьпяў на падлогу галёшы, чалавек раптам нагнуўся, прыціснуў іх да залатых галёнаў і забегаў кругом, прыгаварваючы зьмяншальнымі імёнамі: — «Галёшыкі... нумарочак... капялюшык дазвольце...»

Сяргей і Ўладзімер Паўлавіч прайшлі ў залю.

Ноты й смычкі зашавяліліся. На сцэну выплыў канфэрансье — нуўдалы вундэркінд, аблыселы ад музыкальных занятках. Ён амаль прапеў, старанна выводзячы кажнае слова, доўгі тытул знатнага дырыгента, і канцэрт начаўся.

Сяргей увідзеў, як надзьмуў шчокі рыжы, падобны да боксэра, трубач. Скрыпачы разьюшана замахалі рукамі.

Музыка пацякла.

Яна была з квацістымі разводамі, як вада на вуліцы, калі пральнюць карасіну. Яна шумела й рвалася із сцэны ў залю. Сяргей успомніў, што навонкі так-жа хвошча залева й наежыўся ад задаваленьня. Якраз такой прадстаўлялася яму рэвалюцыя.

Буржуі танулі зусім прыродным спосабам. Пажылая дама ў вячэрнім уборы, кідаючыся, паўзла на калёну. Змыла. Ейны муж-генэрал плаваў, але таксама хутка ўтапіўся. Ужо самым музыкам было па шыю. Вылупіўшы вочы й аплеўваючы набягаючую хвалю, яны сударгава пілавалі пад вадой.

Яшчэ напор. Адзінока, конца на крэсьле, прамігнуў капэльдынэр. Хвалі біліся аб сьцены, лізалі патрэты вялікіх кампазытараў. На паверхні плавалі дамскія торбачкі й білеты. Час ад часу із звонка-зялёнай глыбіні, не сьпяшаючыся, як белы, недасьпелы гарбуз усплывала чыясьці лысіна й прападала.

— Якая музыка! — ускрыкнуў Уладзімер Патровіч. — Гэта табе не Пракоф'еў з Хачатуранам. Клясыка.

Яго так-жа вельмі цікавіла паводка, што адбылася. Але бачыў і разумеў ён больш, чымся Сяргей: музыка не цякла сама сабой — ёю кіраваў дырыгент.

Ён узводзіў дамбы, прарысоўваў каналы і аквадукты, укладваў разьюшаную стыхію ў геамэтрычна дакладныя рэчышчы. Дырыгент кіраваў: за ўзмахам ягонай рукі адныя струмені задзержываліся й замярзалі, іншыя гналіся наперад і круцілі турбіны.

Уладзімер Пятровіч незаўважна перайшоў у першы рад. Ніколі раней не сядзеў ён так блізка ад дырыгента й ніколі ня думаў, што гэтая работа патрабуе столькі натугаў. Яшчэ-б! Сачыць за флейтам, і за бубнам і прымусіць усіх іграць адно й тое!

Пот ліўся зь яго руччамі, шчокі трасьліся. І сьпіна хрыпла ўздрыгвала пры ўсякай паўзе. Здалёку ён выдаваўся лёгкім танцорам, які скача не нагамі, але рукамі. Але тут, зблізка, гэта быў мяснік, што сячэ тулавы й лёд, выхарківаючы за кажным ударам адрывістае, густое дыханьне.

А музыка рабілася ўсё шумнейшай і шумнейшай. Ужо не вадапады й рэкі — яны даўно замерзлі — ледзяныя глыбы прыйшлі ў рух, быццам у ледавіковы пэрыяд. Адзін выступ з грукатам наяжджаў на другі. Перамяшаліся сьветы й прасторы. Новы век з граніту й лёду настаў.

— Антракт! — абвесьціў звонкім голасам маладжавы канфэрансье.

### РАЗЬДЗЕЛ II

Марына рабіла гімнастыку. У люстэрку бясшумна скакалі ружовыя авалі. Ёй было забаўна сачыць за іх вясёлай ігрой.

Марына прысунулася. Яе адбітак рос у разьмерах, аглядаючы сябе па частках. Патрабавальна, падзелавому Марына вымярала прапорцыі. Ці ня зьвешваецца зад, ці няма маршчын на шыі? Люстра служыла ей варштатам, рысавальнай дошкай, мальбэртам працоўнага месца жанчыны, лятуцеўшай аб прыгажосьці. Яна ня прыхарашывалася, не какетнічала. Яна працавала наважна й натхнёна.

Сяньня, восемнаццатага верасьня, Марыне Паўлаўне спаўняецца трыццаць год. Іншыя ў такім бальзакаўскім веку канчаюць сваю кар'еру. Вясельная прыгажосьць, трапіўшая на вокладку ілюстраванага часапісу, да трыццаці год расплываецца як падагрэты плямбір. Але Марына ўпэўнілася: прыгажосьць ейная цела й твару нішто ня можа нарушыць.

У астальных жанчын прыгажосьць служыць дапаможным сродкам. Прыгожым лягчэй выйсьці замуж, знайсьці любоўніка. І ніхто ня ведае, што прыгожая жанчына сама годная быць мэтай. А ўсё іншае — мужчыны, грошы, уборы, кватэры, аўтамашыны — гэта толькі сродкі, любыя сродкі, што служаць прыгажосьці.

Марына робіць шаг у бок — адбітак паўзе па шклє й прападае. На месца жывата прасьвечваецца ваза з кветкамі, а выжэй — груда скрыначак і гіпсавы бюст. Марына дагадваецца, што гэта муж, пакуль яна спала, пракраўся к ёй у пакой і ўзьнёс палац з розных сюрпрызаў. Гэта ўжо ягонае правіла, ён заўсёды купляе шмат і бязгустоўна. Вун навет бюст Гаспадара, ня лічучы цукерак, духоў і іншых сродкаў, патрэбных ейнай прыгажосьці.

— Пашто вы тут, паважаны? — пытаецца Марына, не адварачваючыся. Вялікім людзям не належыцца падглядваць.

Яна хоча замацавацца на сьлізкай люстраной паверхні. Наўсуперак законам фізікі — навечна. Каб навет падчас ейнай адсутнасьці прыгожы адбітак так і аставаўся недакрануты. Дабіцца гэтага ёй ня лёгка.

А ў калідоры ўжо даўно скрыпяць палавіцы. Гэта муж уздыхае пад дзьвярыма, паглядаючы ў дзюрку ад ключа, як хлапчанё, за раньнім туалетам жонкі.

Марына Паўлаўна стаіць перад люстрам. Не саромячыся й ня цешучыся, яна паварочваецца ў розныя бакі, каб мужу за дзьвярыма выгадней было глядзець. Яна не пярэчыць — хай палюбуецца дзеля сьвята. Але дзіцяці ад яе хай лепей не чакае.

Потым не сьпяшаючыся надзявае халат і гаворыць:

— Хто там? Уваходзьце.

— Паздараўляю цябе, Марыначка, з днём нараджэньня.

Яна цалуе яго ў шчаку.

— Дзякую за падаркі, Валодзя. Яны ўсе мне вельмі падабаюцца. Толькі вось гэтую рэч давай паставім у тваім кабінэце. Для майго пакою яна трохі не падходзіць: ня той стыль.

☆

**(Далей будзе)**

